/Працяг са стар. 2/

## ІДЭАЛЫ 25 САКАВІКА

водле якога ёй перадаваліся Віленшчына і Гарадзеншчына з захаваньнем беларускай аўтаноміі, і мітусьня з утварэньнем спачатку БССР, потым г.зв. Літоўска-Беларускай ССР, потым яе скасаваньнем, потым новым утварэньнем БССР у значна меншых межах, і пагадненьне часткі Рады БНР з Пілсудскім, якое прызнавала Беларусь часткаю федэратыўнай Рэчы Паспалітай.

Сёньня, праз 71 год, мы пераасэнсоўваем тыя ідэалы, якія былі абвешчаны 25 сакавіка. Беларускі рух з рамак культурна-нацыянальнага вырастае ў палітычнае адраджэньне. Але ж усім нам трэба добра памятаць урокі гісторыі, што ня зьнешнія сілы, а толькі сам беларускі народ здолее пабудаваць вольную, дэмакратычную, разьвітую, еўрапейскую Беларусь.

В.Івашкевіч.

## I Устаўная грамата

ДА НАРОДАЎ БЕЛАРУСІ

Родная старонка наша апынулася ў новым цяжкім стане. Дзе цяпер улада, што была тут, няведама, мы стаімо перад тым, што наш край можа быць заняты нямецкімі войскамі. Мы павінны ўзяць свой лёс ва ўласныя рукі. Беларускі народ павінен зьдзейсьніць сваё права на поўнае самаазначэньне, а нацыянальныя меншасьці на нацыянальна-пэрсанальную аўтаномію. Правы нацыі павінны знайсьці сваё зьдзяйсьненьне шляхам склікаюньня на дэмакратычных асновах Устаноўчага Сойму. Але і да склікаюньня Устаноўчага Сойму ўся ўлада на Беларусі павінна належыць тым народам, якія на ёй жывуць. Выканаўчы К-т Рады першага Усебеларускага Зьезду, папоўнены прадстаўнікамі рэвалюцыйнай дэмакратыі нацыянальных меншасьцяў, зьдзяйсьняючы мэты Зьезду, абвяшчае сябе часовай уладай на Беларусі для кіраваньня краем і склікаюньня, як можна хутчэй, Усебеларускага Устаноўчага Сойму на аснове агульнага, простага, роўнага, тайнага і прапарцыянальнага выбарчага права для ўсякага дарослага, ня лічучыся з нацыянальнасьцю, вызнаньнем і родам. Часовую народную ўладу краю, якая ставіць сабе мэтай абарону і зацьверджаньне заваяваньняў рэвалюцыі, будзе зьдзейсьняваць створаны намі Народны Сакратарыят Беларусі, які ад Гэтага дня пачаў выконваць свае абавязкі. Пэрсанальны склад Сакратарыяту будзе апублікаваны пасьля.

Дадзена ў Менску-Беларускім
21/8/ лютага 1918 г.

Выканаўчы Камітэт Рады
Усебеларускага Зьезду.

## II Устаўная грамата

У часе сусьветнай вайны, што бурыць адны моцныя дзяржавы і аслабляе другія, абудзілася Беларусь да дзяржаўнага жыцьця. Пасьля трох з паловаю вякоў няволі зноў на ўвесь сьвет кажа беларускі народ аб тым, што ён жыве і будзе жыць. Вялікі Народны Збор -- Усебеларускі Зьезд 15-17 сьнежня 1917 году, дбаючы аб долі Беларусі, зацьвердзіў на яе землях рэспубліканскі лад. Выпаўняючы волю Зьезду і бароннячы дзяржаўныя правы народу, Спаўняючы Камітэт Рады Зьезду гэтак пастанаўляе аб дзяржаўным устроі Беларусі і аб правох і вольнасьцях яе грамадзян і народаў:

1. Беларусь у рубяжох расьсяленьня і лічэбнай перавагі беларускага народу абвяшчаецца Народнаю Рэспублікай.

2. Асноўныя законы Беларускае Народнае Рэспублікі зацьвердзіць Устаноўчы Сойм Беларусі, скліканы на асновах агульнага, роўнага, простага, патаёмнага і прапарцыянальнага выбарчага права, не зважаючы на род, народнасьць і рэлігію.

3. Да часу, пакуль зьбярэцца Устаноўчы Сойм Беларусі, законадаўчая ўлада ў Беларускай Народнай Рэспубліцы належыць Радзе Усебеларускага Зьезду, дапоўненай прадстаўнікамі нацыянальных меншасьцяў Беларусі.

4. Спаўняючая і адміністрацыйная ўлада ў Беларускай Народнай Рэспубліцы належыць Народнаму Сакратарыяту Беларусі, які назначаецца Радаю Зьезду і перад ёю трымае адказ.

5. У рубяжох Беларускае Народнае Рэспублікі абвяшчаецца свабода друку, слова, сходаў, забастовак, хаўрусаў; безумоўная свабода сумленьня, незачэпнасьць асобы і памешканьня.

6. У рубяжох Беларускае Народнае Рэспублікі ўсе народы маюць права на нацыянальна-пэрсанальную аўтаномію; абвяшчаецца роўнае права ўсіх моваў народаў Беларусі.

7. У рубяжох Беларускае Народнае Рэспублікі права прыватнае ўласнасьці на зямлю касуецца. Зямля перадаецца бяз выкупу тым, што самі на ёй працуюць. Лясы, вазёры і нутро зямлі абвяшчаюцца ўласнасьцю Беларускае Народнае Рэспублікі.

8. У рубяжох Беларускае Народнае Рэспублікі ўстанаўляецца найбольш 8-гадзінавы рабочы дзень.

Абвяшчаючы ўсе гэтыя правы і вольнасьці грамадзян і народаў Беларускае Народнае Рэспублікі, мы, Спаўняючы Камітэт Рады Зьезду, абавязуемся пільнаваць законнага парадку жыцьця ў Рэспубліцы, сьцерагчы інтарэсы ўсіх грамадзян і народаў Рэспублікі і захаваць правы і вольнасьці працоўнага люду. А таксама дaложым усіх сілаў, каб склікаць у найбліжэйшым часе Устаноўчы Сойм Беларусі.

Усіх верных сыноў Беларускае зямлі клічам памагчы нам у цяжкой і адказнай нашай працы.

Спаўняючы Камітэт Рады I-га
Усебеларускага Зьезду.

Выдана ў Менску-Беларускім
9 сакавіка 1918 року.

## III Устаўная грамата

Год таму назад народы Беларусі, разам з народамі Расеі, скінулі ярмо расейскага царызму, якое найцяжэй з усіх прыдушыла Беларусь; ня пытаючыся народаў, ён кінуў наш край у пажар вайны, якая дашчэнту зруйнавала гарады і вёскі беларускія. Цяпер мы, Рада БНР, скідаем з роднага краю апошняе ярмо дзяржаўнай залежнасьці, якое было накінутае расейскім царызмам на наш вольны і незалежны край.

Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца незалежнай і вольнай дзяржавай. Самі народы Беларусі, у васобе свайго Устаноўчага сойму, пастановяць аб будучых дзяржаўных сувязях Беларусі.

На падставе гэтага трацяць сілу ўсе старыя дзяржаўныя сувязі, якія далі магчымасьць чужому ўраду падпісаць і за Беларусь Трактат у Берасьці, што забівае на сьмерць беларускі народ, дзелячы зямлю яго на часткі. На падставе гэтага Урад Беларускае Народнае Рэспублікі мае ўвайсьці ў зносіны з зацікаўленымі старанамі, запрапанаваўшы ім перагледзець тую частку Берасьцейскага трактату, якая датычыць да Беларусі і падпісаць мірную ўмову з усімі ваяваўшымі дзяржавамі.

БНР павінна абняць усе землі, дзе жыве і мае лічбовую перавагу беларускі народ, а ўласьне: Магілёўшчыну, беларускія часьці Меншчыны, Віленшчыны, Горадзеншчыны, Віцебшчыны, Смаленшчыны, Чарнігаўшчыны і сумежныя часткі суседніх губэрняў, заселеных беларусамі.

БНР пацьвярджае ўсе тыя правы і вольнасьці грамадзян і народаў Беларусі, якія абвешчаны Устаўной граматай ад 9-га сакавіка 1918 г.

Абвяшчаючы аб Незалежнасьці БНР, Рада яе ўскладае свае надзеі на тое, што ўсе любячыя волю народы памогуць беларускаму народу ў поўнай меры зьдзейсьніць яго палітычна-дзяржаўныя ідэалы.

25 сакавіка 1918 г.
Менск

Рада БНР.

© PDF: Kamunikat.org 2014

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

